# Голас Радзімы

№ 52 (2090)
29 снежня 1988 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.







Тры гады мінула з таго часу, як на будаўнічай пляцоўцы ў Гатаве, невялікай вёсачцы пад Мінскам, узняўся зялёна-бела-чырвоны флаг. Тут італьянская фірма «Канчэрыс Когала» пачала ўзводзіць самы буйны ў Еўропе гарбарны завод. Цяпер будаўніцтва завяршаецца. Пачаліся пусканаладачныя работы, і доследныя партыі сыравіны праходзяць першапачатковую апрацоўку.

Фірма «Канчэрыс Когала» добра вядомая ў дзелавых колах. Сёння 65 працэнтаў сваёй прадукцыі яна адпраўляе ў СССР, краіны ЕЭС, Югаславію, Індыю. З канца шасцідзесятых гадоў фірма будуе прадпрыемствы «пад ключ» за рубяжом. У 1985 годзе Усесаюзнае аб'яднанне «Саюззнешбудімпарт» падпісала з ёю кантракты на ўзвядзенне абутковых фабрык у Маскве, Калузе, Тальяці, а таксама гарбарных заводаў у Разані і Мінску. Завод у Гатаве будзе даваць абутковым фабрыкам краіны 70 мільёнаў квадратных футаў скуры.

Ці выгадна італьянскай фірме ўзводзіць такое прадпрыемства пад Мінскам! На гэта пытанне прадстаўнік фірмы «Канчэрыс Когала» Маура Ланцоні адказвае так: «Будаўніцтва завода ў Гатаве вядзе да фіналу, у якім не будзе тых, хто прайграў. Італьянскі бок атрымае сваю суму валютных рублёў, савецкі — гарбарны завод экстра-класа».

А мы (дададзім ад сябе) — напэўна, модны абутак.

НА ЗДЫМКУ: адміністрацыйны корпус завода; італьянскія спецыялісты Брыкезе ФІАРЭНЦА, Ізепі ЛАРЭДАНА, Багацела П'ЕРЛУІДЖЫ, Дэла Джусціна ДЖАВАНІ; у адным з цэхаў гарбарнага завода.

Фота С. КРЫЦКАГА.

КАСМІЧНЫЯ ДАСЛЕДАВАННІ

## ПРАГРАМА ВЫКАНАНА

Савецкія касманаўты Уладзімір Цітоў, Муса Манараў і грамадзянін Французскай рэспублікі касманаўт-даследчык Жан-Лу Крэцьен пасля паспяховага завяршэння праграмы даследаванняў і эксперыментаў на борце пілатуемага комплексу «Мір» 21 снежня вярнуліся на Зямлю. Спускаемы апарат карабля «Саюз ТМ-6» зрабіў пасадку за 180 кіламетраў на паўднёвы ўсход ад горада Джэзказгана. Самаадчуванне касманаўтаў пасля прызямлення добрае. Работу на арбіце працягваюць Аляксандр Волкаў, Сяргей Крыкалёў і Валерый Палякоў.

Упершыню ў гісторыі савецкія касманаўты Уладзімір Цітоў і Муса Манараў ажыццявілі арбітальны палёт працягласцю адзін год.

За гэты час на борце комплексу «Мір» выканана шырокая праграма астрафізічных, геафізічных і медыцынскіх даследаванняў, тэхналагічных і біятэхналагічных эксперыментаў.

Значнае месца было адведзена работам па даследаванню прыродных рэсурсаў Зямлі і вывучэнню навакольнага асяроддзя. Рэгулярна праводзіліся візуальныя назіранні і здымкі сушы і акваторыі Сусветнага акіяна. Атрымана больш чым 12 тысяч здымкаў зямной паверхні.

У палёце праводзіліся даследаванні розных астрафізічных аб'ектаў галактычнага і пазагалактычнага паходжання, крыніц рэнтгенаўскага і ультрафіялетавага выпраменьванняў, калязямной касмічнай прасторы, атмасферы Зямлі.

Выканаңы вялікі аб'ём эксперыментаў па касмічнай медыцыне, у тым ліку з удзелам урача-даследчыка.

Шматлікія даследаванні праведзены ў рамках міжнароднага супрацоўніцтва.

З 28 лістапада 1988 года на працягу 23 дзён на борце арбітальнага комплексу праводзілі сумесныя даследаванні пяцёра савецкіх і французскі касманаўты. Большая частка рабочага часу ў палёце міжнароднага экіпажа была адведзена медыцынскім эксперыментам. З выкарыстаннем новых метадаў і ўдасканаленай апаратуры праводзіліся кардыялагічныя, псіхафізіялагічныя і радыебіялагічныя даследаванні, вывучаліся абменныя працэсы ў арганізме чалавека.

У час выхаду ў адкрытую касмічную прастору камандзір экіпажа Аляксандр Волкаў і французскі касманаўт Жан-Лу Крэцьен правялі мантаж і раскрыццё буйнагабарытнай ферменнай канструкцыі і выканалі запланаваныя навукова-тэхнічныя эксперыменты.

Атрыманыя ў ходзе палёту вынікі маюць вялікую навуковую каштоўнасць і знойдуць прымяненне ў розных галінах навукі і народнай гаспадаркі нашай краіны, паслужаць справе прагрэсу, на карысць усіх людзей Зямлі.

Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР Уладзіміру Цітову і Мусе Манараву прысвоена званне Героя Савецкага Саюза, касманаўт-даследчык Жан-Лу Крэцьен узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга і касманаўт-даследчык Мішэль Таніні — ордэнам Дружбы народаў.

САЦЫЯЛЬНАЯ СФЕРА

## НА ГРОШЫ ПРАДПРЫЕМСТВА

Валютныя накапленні — мара любога гаспадарніка. І пакуль што далёка не кожны можа імі пахваліцца. Дзякуючы знешнегандлёвым аперацыям, у калектыве вытворчага аб'яднання «Наваполацкнафтааргсінтэз» яны ёсць. І сацыяльна значны момант у іх выкарыстанні заключаецца ў тым, што, акрамя вырашэння вытворчых задач — набыцця сучаснай тэхналогіі, апаратуры, сродкаў аўтаматызацыі, — яны накіроўваюцца і на ўмацаванне матэрыяльнай базы аховы здароўя горада.

Каля 80 тысяч інвалютных рублёў заплаціла прадпрыемства галандскай фірме «Ташыба медыкал» за дыягнастычны кардыялагічны ультрагукавы апарат, разлічаны на 5 тысяч даследаванняў у год. Гэта першакласнае абсталяванне ўжо атрымала наваполацкая гарадская бальніца. Японская фірма «Алімпас» паставіць камплект медыцынскіх фібраскопаў, які ацэньваецца ў 28 тысяч інвалютных рублёў. У стадыі надпрацоўкі іншыя пагадненні, якія таксама санкцыяніраваны саветам працоўнага калектыву прадпрыемства.

ДОСЛЕДНЫЯ ЎЗОРЫ

## РАСПРАЦАВАНЫ КАМП'ЮТЭР

Доследныя ўзоры персанальнага камп'ютэра «Электроніка МК-92» выпушчаны на брэсцкім заводзе «Колератрон». Гэта машына ўмяшчаецца ў звычайны партфель, з ёю можна працаваць на будоўлі, у дарозе, рабіць вылічэнні на нарадзе.

Камп'ютэр мае графічны дысплей, клавіятуру, друкарскае ўстройства. Атрыманая інфармацыя адразу з'яўляецца на паперы. Машына робіць 200 тысяч аперацый у секунду.

Пасля таго як дзяржаўная камісія прыме камп'ютэр, пачнецца яго серыйная вытворчасць. Але ўжо і зараз машына брэстаўчан зацікавіла прадстаўнікоў многіх арганізацый і прадпрыемстваў.

ДЛЯ СЯБЕ І ЗА МЯЖУ

## БРЭСЦКІЯ ДЫВАНЫ

10 мільёнаў квадратных метраў — такая агульная плошча дываноў, выпушчаных пачынаючы з 1986 года работнікамі Брэсцкага вытворчага дыванова аб'яднання.

Брэсцкія дываны карыстаюцца попытам як у нас у краіне, так і за мяжой. Зусім нядаўна партыя дываноў — шэсць тысяч квадратных метраў — была адпраўлена ў Аб'яднаныя Арабскія Эміраты. Прадукцыя брэстаўчан экспанавалася сёлета і ў сталіцы Эфіопіі — Адзіс-Абебе — на выстаўцы «Навука,тэхніка, эканоміка Беларускай ССР».

КОНКУРС ПРЫГАЖОСЦІ



Конкурс прыгажунь «Гродна-88» прайшоў у абласным цэнтры. Яго арганізавалі гарадскі Маладзёжны цэнтр сумесна з заводам аўтамагнітол, а таксама польскія фірмы «Іта», «Студэнт-сервіс» і газета «Кур'ер Падляскі» з горада Беластока.

У фінале ўдзельнічала 16 прэтэндэнтак. Пераможцай стала навучэнка II курса Гродзенскага педвучылішча Таццяна Валкавыцкая.

З конкурсу фіналістак выбралі восем дзяўчат, якія стануць удзельніцамі конкурсу «Інтэрпрыгажуня» ў горадзе Беластоку ў Польшчы.

НА ЗДЫМКУ: пераможца конкурсу «Гродна-88» Таццяна ВАЛКАВЫЦКАЯ.

ЭТНІЧНАЯ ТВОРЧАСЦЬ

## АРЫГІНАЛЬНЫ СНЕГААЧЫШЧАЛЬНІК

Так і засталіся на складзе сотні шыроказахватных лапат у лінейнай службе лакаматыўнага дэпо станцыі Полацк. Ніхто іх не ўзяў у рукі. І гэта нягледзячы на даволі багаты на снег снежань. «Падаць у адстаўку» дзедаўскаму метаду прапанавалі ўмельцы з вытворчага аб'яднання «Наваполацкнафтааргсінтэз». Яны вырашылі прымяніць для ўборкі снегу з чыгуначнага палатна... рукатворную мяцеліцу.

Арыгінальнай канструкцыя «Ветрыка» — так назвалі снегаачышчальнік яго стваральнікі — простая па выкананню і надзейная ў эксплуатацыі. Для яе вырабу і зборкі можа быць выкарыстаны магутны вентылятар са спецыяльным прыстасаваннем, які адпрацаваў пэўны рэсурс.

РЭКАНСТРУКЦЫЯ

## ДЛЯ МАЛЫШОЎ

На Ваўкавыскім малочнакансервавым камбінаце дзіцячых прадуктаў з'явілася магчымасць адмовіцца ад малапрадукцыйнай працы, кіраваць тэхналагічнымі працэсамі на базе сучаснага аўтаматызаванага абсталявання. Цяпер наладчыкі рыхтуюць да запуску ў прамысловую эксплуатацыю новы аўтаматызаваны комплекс французскай фірмы «Сіфаль».

Усе тэхналагічныя працэсы ад першаснай апрацоўкі малочнай сыравіны, яе ачысткі, ахаладжэння, тэрмаапрацоўкі да цэнтралізаванай мыйкі і выхаду гатовай прадукцыі будуць працаваць у аўтаматызаваным рэжыме. Кіраваць працэсамі будуць апаратары. З уводам у дзеянне комплексу намнога ўзрасце выпуск высокапажыўных сухіх малочных сумесей.

НОВЫЯ ТАВАРЫ

## ПАЛІТО З МАГІЛЁВА

90 новых мадэлей верхняга жаночага і падлеткавага адзення прапанавалі сёлета пакупнікам швейнікі Магілёўскай фабрыкі імя Валадарскага. Гэта 85 працэнтаў усяго выпускаемага асартымента.

Ужо сёлетняй зімой нашы модніцы змогуць па вартасцях ацаніць магілёўскія паліто з каўнярамі з пясца, норкі, лісы, паліто са штучнага футра; школьніцам будуць да твару дэмісезонныя і школьныя камплекты. Прымераць навінкі змогуць і жыхары Цюмені, Караганды, Воркуты, Семіпалацінска, Уладзівастока і іншых гарадоў краіны.

ЭКСПРЭС-ІНТЭРВ'Ю

# РЭЦЭПТ ПРАПІШУЦЬ ГОРАДУ

**У Мінску адкрыты рэспубліканскі цэнтр гігіены і эпідэміялогіі Міністэрства аховы здароўя БССР.**

**Пра задачы новай службы расказвае галоўны ўрач В. ЖУКОЎСКІ.**

— Камандаваць санітарнай работай і выконваць гэтыя каманды цяпер будзе адзіны цэнтр, куды ўвайшлі спецыялісты былога санупраўлення, рэспубліканскай санстанцыі. Хутка да іх далучацца некалькі навукова-даследчых інстытутаў, электронна-вылічальны цэнтр Міністэрства аховы здароўя, Рэспубліканскі цэнтр здароўя. Так будзе завершана стварэнне сістэмы «Прафілактыка», назва якой гаворыць сама за сябе. З усіх канцоў рэспублікі ў цэнтр цяпер сцякаюцца даныя аб вірусных захворваннях, якасці прадуктаў харчавання, умовах працы, быту, чысціні рэк, паветра, радыелагічных становішчы, медыцынскай статыстыцы. З дапамогай матэматычных метадаў і ЭВМ паспрабуем выявіць сувязі паміж навакольным асяроддзем — сацыяльным, бытавым, экалагічным — і здароўем насельніцтва. Канкрэтныя рэкамендацыі па прафілактыцы захворванняў таксама за намі.

Мы не збіраемся займацца дробязямі. Мэта Цэнтра — бачыць праблему ў цэлым.

Для праграмы «Здароўе» мы падрыхтавалі некалькі раздзелаў: здароўе і навакольнае асяроддзе, здароўе і праца. Магчыма, не ўсё ў іх ідэальнае. Тыя ж экалагічныя праблемы хацелася б вырашаць больш эфектыўна. Але ў адным цэнтр, упэўнены, не папракнуць: мы ні ў чым не ўступілі ведамаснаму ўціску. Напрыклад, у Мінску, Гомельскай і Брэсцкай абласцях не вельмі спяшаліся з перасяленнем жыхароў з дамоў, якія трапілі ў санітарныя зоны прадпрыемстваў. У праграме ясна ўказана: паблізу шкодных цэхаў людзі жыць не павінны. Сур'ёзна заняліся мы і радыелагічнымі даследаваннямі па ўсёй тэрыторыі рэспублікі.

Калі гэтая праграма ў асноўным латае ранейшыя прарэхі, то паспарты здароўя, складанне якіх пачалі спецыялісты цэнтра, дапамогуць папярэджваць шкодныя вынікі гаспадарчай дзейнасці. У памяць ЭВМ будуць унесены даныя аб захворванні ў кожным рэгіёне рэспублікі, яго эканамічным і сацыяльным патэнцыяле, прыродных умовах. Тады можна будзе выдаць дакладныя заданні міністэрствам: колькі бальніц, дзіцячых садоў трэба пабудаваць, дрэў пасадзіць, каб адначасова з павелічэннем выпуску прадукцыі не расла колькасць захворванняў. Калі ж у якога-небудзь горада ўмовы для «падсялення» яшчэ аднаго прадпрыемства акажуцца неспрыяльнымі, то такому «навасёлу» тут проста не знойдзецца месца.

НОВАЛУКОМСКАЯ КЕРАМІКА



Дэкаратыўна-мастацкая кераміка — асноўная прадукцыя ўчастка тавараў народнага спажывання на Новалукомскім заводзе керамзітавага гравію. Вялікай папулярнасцю карыстаюцца інтэр'ерныя вазы, што імітуюць па колеру і форме гладыёлусы, цюльпаны, архідэі. Для многіх удзельнікаў Міжнароднага маскоўскага фестывалю моладзі і студэнтаў памятнымі сталі дэкаратыўныя медалі, зробленыя ў Новалукомлі. Прымаюць тут і заказы на афармленне дэкаратыўнай керамікай інтэр'ераў прадпрыемстваў.

НА ЗДЫМКУ: над дэкаратыўнай вазай «Курган Славы» працуюць ганчары Алена РЫЖАНКОВА і Аляксей КРЭНДЗЕЛЕЎ.

## ЧАС ВЯЛІКІХ ЗМЕН

# «ПРАЦУЮЦЬ» КАНТАКТЫ

**Аб той ролі, якую адыгрываюць у гаспадарчым жыцці рэспублікі кантакты з іншымі краінамі, сённяшнім іх стане, далейшым развіцці наша гутарка з намеснікам аддзела знешнеэканамічных сувязей пры Дзяржаўным камітэце планавання БССР Мікалаем ГРЫНЁВЫМ.**

*— Мікалай Тарасавіч, такім чынам, сёння мы бачым, як на практыцы «зарацавалі» на наша сённяшняе жыццё знешнеэканамічныя сувязі. Хто і як займаецца гэтай справай у рэспубліцы?*

— Знешнеэканамічнымі кантактамі займаецца ў нас даволі многа ўстаноў: практычна ўсе міністэрствы і ведамствы, асобныя прадпрыемствы. Але каардынуючы цэнтр, безумоўна, ёсць. Такую функцыю выконвае Камісія Савета Міністраў БССР па пытаннях эканамічных сувязей з замежнымі краінамі. У яе ўваходзяць работнікі адпаведных аддзелаў Савета Міністраў і Дзяржплана рэспублікі, міністэрстваў, рэспубліканскай Гандлёва-прамысловай палаты, дырэктары прадпрыемстваў. Узначальвае — намеснік старшыні Савета Міністраў БССР Вячаслаў Кебіч.

*— Знешнеэканамічныя сувязі — неад'емная частка нашага гаспадарчага механізма, сродак вырашэння агульных задач з дапамогай перадавога замежнага вопыту, тавараабменных аперацый. Але жыццё апошнім часам значна змянілася, паставіла перад грамадствам новыя задачы, праблемы. Як адбіваюцца сучасныя ўмовы на вашай галіне?*

— Так, пэўныя кантакты з замежнымі партнёрамі існуюць даўно. Але ў апошнія некалькі гадоў яны атрымалі новы імпульс для развіцця і, безумоўна, падняліся на якасна вышэйшую ступень. Сёння намеціліся таксама і новыя формы для іх рэалізацыі.

Сталі шырока распаўсюджвацца навукова-тэхнічныя і вытворчыя прамыя сувязі. Гэта калі ўсе дагаворы паміж партнёрамі заключаюцца напрамую, з улікам уласных інтарэсаў канкрэтнага прадпрыемства ці ўстановы. У нашай рэспубліцы прамыя сувязі наладжваюцца практычна з усімі сацыялістычнымі краінамі. Для прыкладу з найбольш плённых магу прыгадаць кантакты са Славеніяй, Балгарыяй, Польшчай. Тут існуе цэлая праграма супрацоўніцтва, у якую ўключаны некалькі канкрэтных дагавораў з асобнымі прадпрыемствамі. Зноў-такі для прыкладу назаву мінскі завод халадзільнікаў «Атлант» і яго дагавор.

Калі падагуліць, то больш за 90 прадпрыемстваў рэспублікі наладзілі прамыя сувязі з краінамі—удзельніцамі СЭУ.

*— У якіх жа галінах яны найбольш значныя?*

— У распрацоўцы электронна-вылічальнай тэхнікі, высокаэфектыўных тэхналогій і абсталявання, у галіне парашковай металургіі.

Не забываюць пра карысць прамых сувязей і тыя, хто працуе над развіццём сацыяльнай сферы, вырашэннем харчовай і жыллёвай праграм. Дзяржбуд рэспублікі сумесна з польскімі калегамі працуе над паляпшэннем і ўдасканаленнем грамадзянскага і жыллёвага будаўніцтва. Міністэрства будаўнічых матэрыялаў, Мінскі фарфоравы завод супрацоўнічаюць з венгерскімі калегамі па ўдасканаленню тэхналогіі вытворчасці вырабаў з фарфору. Прамыя сувязі наладжаны практычна ва ўсіх галінах рэспубліканскай народнай гаспадаркі.

*— Зараз вельмі многа гавораць пра стварэнне сумесных прадпрыемстваў...*

— Так, гэта другая форма, другі накірунак развіцця знешнеэканамічных сувязей, прадыктаваны сучасным жыццём. Сёння ў Беларусі афіцыяльна зацверджаны два такія прадпрыемствы. Разам з заходнегерманскай фірмай «Саламандэр» у Віцебску на базе мясцовай абутковай фабрыкі ствараецца сумесная фірма «Белвест» па вытворчасці абутку. І з Венгрыяй на базе Барысаўскага камбіната па вытворчасці пражы для ручнога вязання з вытворча-знешнегандлёвым прадпрыемствам «Тэмафорг».

У Віцебску 51 працэнт узносаў ва ўстаноўчы фонд — савецкі ўклад.

*— Знешнеэканамічныя кантакты — справа хоць і не новая, але тым не менш прымае новы абарот, перабудова падштурхоўвае да гэтага. Мабыць, няпроста зрушыць з месца тое, што паспела ўжо амаль спыніцца ў сваім руху?*

— І складанасці, і пралікі напачатку былі, ёсць яны і сёння. Як толькі выйшлі ўрадавыя дакументы аб пашырэнні эканамічных кантактаў з замежнымі краінамі, спрацаваў каманднa-адміністрацыйны метад кіравання, і сувязі сталі наладжвацца... па разнарадцы. Гэта значыць, што завод ці ўстанова «зверху» атрымлівалі загад: «Супрацоўнічаць з тым і тым». Натуральна, прымусовыя, без уліку мясцовых інтарэсаў кантакты не сталі высокаэфектыўнымі. Прайшло нямнога часу, і жыццё высветліла заганнасць такога метаду. Сталі мяняцца сродкі, пачалі мяняцца і партнёры. Зараз крытэрый адзін: наколькі плануемае супрацоўніцтва адпавядае інтарэсам самога прадпрыемства.

На сённяшняй эфектыўнасці адбіваецца і тое, што пакуль справа знаходзіцца ў стадыі станаўлення.

Наогул, праблем хапае. Сярод іх складанасці, звязаныя з рознымі прынцыпамі цэнаўтварэння ў нас і ў партнёраў. Сёння прамыя сувязі існуюць у асноўным у выглядзе простага тавараабмену. Вось і здараецца, што партнёры не могуць дамовіцца аб яго эквівалентнасці. Мы ж, дарэчы, хацелі б бачыць прамыя сувязі на падставе кааперацыі.

Усе абмены нашы прадпрыемствы праводзяць у рамках сваёй вытворчай праграмы. Ніякіх дадатковых фондаў ім для гэтага не выдзяляецца. Выканалі дзяржзаказ, унутрысаюзныя пастаўкі па дагаворах — астатнім распараджайцеся, як хочаце.

*— Якую перспектыву звязваюць з пераходам на рэспубліканскі гаспадарчы разлік?*

— Рэспубліканскі гасразлік павінен расшырыць магчымасці, даць болей самастойнасці. Вырасце выхад рэспублікі на міжнародны рынак. Асабліва з таварамі народнага спажывання. Цяпер у нас ёсць спецыяльнае падраздзяленне «Беларусзамежгандаль», якое і здзяйсняе выхад рэспублікі на міжнародны рынак з таварамі, выробленымі на прадпрыемствах, падначаленых рэспубліканскаму Савету Міністраў. Ужо і асобныя прадпрыемствы самастойна выходзяць са сваёй прадукцыяй на замежны рынак.

*— Хто ж працуе сёння над развіццём знешнеэканамічных сувязей? Як падрыхтаваны кадры?*

— Дэфіцыт кадраў ёсць. Не задавальняе іх кваліфікацыя. Але праблему стараемся вырашыць. Пакуль з дапамогай цэнтральных саюзных устаноў, якія стварылі спецыялізаваныя сістэмы падрыхтоўкі. Спецыялісты ж у нас у асноўным свае, беларускія. Менавіта на іх плечы ляжа асноўны цяжар вялікай работы.

**Гутарку вяла**
**Галіна УЛІЦЁНАК.**

## ХТО І З ЧЫМ ЕДЗЕ ДА НАС

Як вы думаеце, хто ў СССР першым сустракае новы год? А хто апошнім развітваецца са старым? Угадаць нялёгка: вялікая Савецкая краіна. Але ёсць усё ж людзі, чый прыярытэт, мне здаецца, неаспрэчны. Гэта пагранічнікі.

Разам з падцягнутымі воінамі мы стаім на пляцоўцы, дзе пераплятаюцца да бляску адпаліраваныя чыгуначныя пуці. З насыпу выразна відаць стометровы тытанавы штык Брэсцкай крэпасці-героя. А побач нібыта плыве ў марознай снежаньскай смузе мост праз Буг. Там граніца.

За мост бяжыць магістраль, што звязвае СССР з многімі дзяржавамі Усходняй і Заходняй Еўропы. Але як бы ні спяшаліся імклівыя экспрэсы і цяжкія таварныя саставы, яны плаўна тармозяць і заміраюць тут, на аглядальнай пляцоўцы Асобнага кантрольна-прапускнога пункта (АКПП) «Брэст».

# ЛЯ ВАРОТ КРАІНЫ

Здалёку, хутка нарастаючы, накатвае сталёвы грукат цягніка. Праз некалькі мінут услед за лакаматывам перад намі плаўна выцягваюцца зялёна-лакавыя вагоны. Экспрэс «Берлін — Масква». Дакладна па раскладу.

Пагранатрад, не трацячы часу, пачынае працу. Задача пагранічнікаў для недасведчаных выглядае не такой ужо і складанай: праверыць дакументы на ўезд, старанна агледзець рухомы састаў. Аднак не варта спадзявацца толькі на першыя ўражанні.

Прапаршчык А. Дагадаў прадстаўляецца пасажырам чарговага купэ:

— Дзень добры. Пагранічны кантроль.

Перад ім сімпатычная бялявая дзяўчына і муж з жонкай у гадах. Турысты з Францыі і ФРГ. Муж і жонка, напрыклад, збіраюцца правесці ў нашай краіне ўвесь адпачынак.

— Перабудова ў Савецкім Саюзе выклікае цікавасць ва ўсім свеце,— тлумачыць ён. — Навіны ад вас трапляюць на першыя старонкі газет. Мы з жонкай вырашылі пазнаёміцца з сённяшнім жыццём савецкіх людзей бліжэй. Зразумела, у праграме паездкі і культурныя, гістарычныя славутасці Мінска, Масквы, Ленінграда...

Што ж, падобныя словы на граніцы можна пачуць сёння вельмі часта. Са шчырым, добразычлівым інтарэсам адпраўляецца ў дарогу пераважная большасць нашых гасцей. За апошнія гады другі колькасць турыстаў толькі з заходніх краін вырасла амаль удвая.

Але будні брэсцкіх пагранічнікаў, як я пераканаўся, складваюцца не толькі з такіх сустрэч. Міжнародны абмен, кантакты паміж людзьмі, якія дынамічна развіваюцца, некаторыя падарожнікі, на жаль, стараюцца выкарыстаць своеасабліва. Праз рубеж спрабуюць часам перакінуць сапраўдную кантрабанду: буйныя партыі тавараў, не запісаную ў дэкларацыі валюту, а апошнім часам і больш небяспечны груз — наркотыкі.

Вось нядаўні выпадак. Ноччу кантралёры Мягліцкі і Леванюк афармлялі скоры поезд, які ішоў з-за мяжы. У калідоры аднаго з вагонаў іх увагу прыцягнула ацяпляльная сістэма. На крапежных вінтах металічнай ахоўнай рашоткі былі відаць нейкія драпіны. Быццам нехта нядаўна арудаваў тут адвёрткай. Разам з таможнікамі пагранатрад зняў рашотку. Пад ёю ў шчыліну быў уціснуты пласцікавы пакет. Там аказаўся гашыш. Зразумела, ядавітае зелле неадкладна канфіскавалі. Вагон пайшоў «чыстым».

Ці іншае. Здавалася б, што тут незразумелага: савецкія законы забараняюць правоз махровай парнаграфіі, друкаванай і відэапрадукцыі, якая прапагандуе садызм і насілле і адкрыта разлічана на самыя нізкія інстынкты. Але мутны паток такіх матэрыялаў зусім не знікае. Вось і ў час майго візіту з суседняга вагона вынеслі цэлую кучу мярзотных парнаграфічных выданняў. Цікава, што тыя, хто сёння бярэ з сабой у дарогу падобныя «сувеніры», спрабуюць апеляваць... да нашай публічнасці. Ні больш ні менш!

Іншым разам пагранічнікам даводзіцца перагароджваць дарогу і парушальнікам граніцы. Часам гэта асобы з нячыстым сумленнем і цёмным мінулым. Мне, напрыклад, расказалі выпадак, калі пільнасць воінаў дапамагла абясшкодзіць злоснага рэцыдывіста, якога шукалі за цяжкія злачынствы і які спрабаваў па падробленых дакументах выехаць з краіны.

А вось выпадак хутчэй з разраду кур'ёзных. Два турысты-блізняты дзеля жарту памяняліся пашпартамі. Маўляў, ці заўважаць пагранічнікі? Заўважылі. Браты потым доўга дзівіліся: бывала ж іх нават уласныя бацькі блыталі. Другі раз у заходняга падарожніка, які ехаў за мяжу, у багажы аказаўся занадта цяжкі чамадан, поўны... звычайнай зямлі. Тайнік? Не, усё аказалася прасцей. Чалавек, рускі па паходжанню, хацеў узяць з сабой хоць колькі жменяў роднай зямлі. Памяць...

— Усё больш сяброў з'яўляецца сёння ў нашай краіны, — сказаў палітработнік АКПП «Брэст» афіцэр А. Дыкуша, з якім я сустрэўся ўжо на вакзале, адкуль паязды адпраўляліся далей, на ўсход. Перабудова, дэмакратызацыя нашага грамадства спрыяльна адбіваюцца і на міжнародных сувязях Савецкага Саюза. Год ад году расце паток людзей, якія перасякаюць рубяжы Радзімы. Факт, што і гаварыць, прыемны. Але для тых, хто едзе не з добрымі намерамі дарога ў нашу краіну надзейна закрыта.

**А. МІХАЙЛАЎ.**




**Поплеч працуюць савецкія і польскія пагранічнікі і таможнікі ў сумесным кантрольна - прапускным пункце «Казловічы» на заходняй граніцы СССР. На афармленне дакументаў на транспартныя сродкі і грузы, людзей, якія едуць з імі, ідзе ўдвая менш часу, чым раней, лічаныя мінуты трацяцца на ўзгадненні. Затое зусім няўтульна адчуваюць сябе пры сумесным даглядзе парушальнікі пагранічных і таможных правілаў.**

**НА ЗДЫМКУ: прадстаўнік Брэсцкай таможні Вячаслаў ОСІНЦАЎ (справа) і польскі таможнік Анджэй ХЕРОНІМ правяраюць дакументы ў вадзіцеля з ФРГ Петэра УКЕРМАНА.**

**Фота Э. КАБЯКА.**

## З ПАДАРОЖЖА ПА ЗЛУЧАНЫХ ШТАТАХ АМЕРЫКІ

# НЕ РАССТАЛІСЯ Б МЫ З НАШЫМ КРАЕМ...

[Працяг. Пачатак у № 51].

На высокіх шасціметровых пастаментах з чорнага паліраванага граніту стаяць чатыры бронзавыя бюсты вялікіх сыноў чалавецтва, выдатных прадстаўнікоў чатырох народаў: рускага, украінскага, беларускага і амерыканскага — Аляксандра Пушкіна, Тараса Шаўчэнкі, Янкі Купалы і Уолта Уітмена.

З хваляваннем глядзеў я на строгія манументальныя помнікі і думаў пра тое, як жа гэта сімвалічна, што вось тут, на зямлі Амерыкі, у Араў-парку, пад адным небам, пад адным сонцам, сышліся разам, каб назаўсёды паяднацца, песняры славянскіх і амерыканскага народаў. І гэта было як красамоўнае алегарычнае ўвасабленне высокай гуманістычнай ідэі еднасці чалавецтва....

Тут варта зазначыць, што інтэрнацыяналізм, дружба, братэрства прадстаўнікоў розных народаў з самага пачатку былі вызначальнымі рысамі ў грамадска - культурнай дзейнасці Араў-парку. Разам з рускімі, беларусамі, украінцамі засноўвалі яго амерыканцы, палякі, эстонцы, яўрэі. На працягу многіх гадоў кіраўніцтва Араў-парку рабіла і сёння робіць усё, каб паміж усімі нацыянальнасцямі ўсталёўваліся шчырыя, сяброўскія адносіны, каб кожны, хто прыязджае ў Араў-парк, адчуваў сябе вольна, як дома.

Араў-парк — гэта адзінае не толькі ў Злучаных Штатах, але і ва ўсім белым свеце месца, дзе чатыры велічныя манументы паэтычным геніям Расіі, Украіны, Беларусі і Амерыкі стаяць побач, сцвярджаючы сугучнасць сваіх мар і надзей.

Што яднае гэтых вялікіх паэтаў? Вядома ж, іх творчасць, палымяны грамадзянскі пафас якой скіраваны супраць прыгнёту, сацыяльнай няроўнасці; творчасць, што ўся без астатку была аддадзена служэнню народу; творчасць, што заклікала працоўны люд скінуць з сябе путы няволі і ісці «з цемры да святла».

Помнікі А. Пушкіну, Т. Шаўчэнку і Я. Купалу — гэта дар савецкага народа амерыканскаму, нашым суайчыннікам у Злучаных Штатах Амерыкі.

Звыш чатырох тысяч чалавек сабралася 6 верасня 1970 года ў Араў-парку на адкрыццё помнікаў А. Пушкіну і Т. Шаўчэнку. Сярод прысутных былі і аўтары абодвух манументаў: Аляксандр Кавалёў і народны мастак Украіны Васіль Барадай.

«Такой велічнай урачыстасці, — пісала тады газета «Русский голос»,—яшчэ не бывала за час існавання рускай і ўкраінскай прагрэсіўнай грамадскасці ў Амерыцы. Багатых і яркіх уражанняў было так шмат, што яны маглі падацца занадта цяжкімі для састарэлых людзей, што складалі асноўную масу прысутных. Аднак, як і варта было чакаць, радасць таго дня была настолькі велізарнай, што гэтыя састарэлыя людзі былі гатовы прыняць нават і большую фізічную нагрузку».

Урачыстасці яскрава сведчылі аб глыбокай павазе нашых суайчыннікаў да бясцэннай культурнай спадчыны пакінутай Радзімы.

А роўна праз год быў адкрыты трэці помнік—У. Уітмену.

І на гэты раз Араў-парк стаў месцам паломніцтва для тысяч суайчыннікаў. Прыехалі і ганаровыя госці. Сярод іх савецкія дыпламаты, прадстаўнік Маскоўскай патрыярхіі ў Нью-Йорку, паэт з Украіны Сцяпан Алейнік, аўтар помніка—амерыканскі скульптар Бруна Лучэзі.

Вядомы амерыканскі паэт і літаратуразнаўца Уолтэр Ловенфелк у прамове адзначыў, што У. Уітмен сцвярджаў у сваіх паэтычных творах ідэю братэрства паміж народамі, патрабаваў сацыяльнай свабоды для працоўных і быў першым амерыканскім паэтам, які лічыў, што «рабочыя людзі з'яўляюцца галоўнымі героямі яго вершаў».

1 чэрвеня 1973 года адбылося ўрачыстае адкрыццё помніка Я. Купалу. Разам з нашымі суайчыннікамі і амерыканцамі ў гэтай падзеі прынялі ўдзел прадстаўнікі Міністэрства культуры БССР, Беларускага таварыства па культурных сувязях з суайчыннікамі за рубяжом, Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі. Нямала цёплых слоў пачуў у той дзень аўтар помніка, беларускі скульптар Анатоль Анікейчык.

Мясцовыя газеты пісалі: «Тут, у сваім парку, беларусы свабодна размаўляюць на роднай мове і дзеляцца ўспамінамі пра сваю далёкую Радзіму. Сёння... тысячы людзей сабраліся, каб ушанаваць народнага паэта Я. Купалу (1882 — 1942) разам з Т. Шаўчэнкам, А. Пушкіным і амерыканскім паэтам У. Уітменам. Беларусы зрабілі ўсё, каб падзяліцца з амерыканцамі сваім культурным набыткам, якім яны вельмі ганарацца».

Сярод гасцей з Савецкай Беларусі, якія ўдзельнічалі ў цырымоніі адкрыцця помніка Я. Купалу, быў і наш вядомы драматург Андрэй Макаёнак. Вось што расказаў потым пра гэту падзею Андрэй Ягоравіч: «Глядзіш на гэты «паэтычны» мемарыял і міжволі думаеш аб тым, як паэзія, літаратура яднаюць людзей добрай волі. Дарэчы, усім, хто прысутнічаў на ўрачыстым адкрыцці помніка Купалу, вельмі спадабалася думка, якую выказаў у прамове Анікейчык. Ён падкрэсліў, што аўтарамі гэтага манумента з'яўляюцца таксама і рабочыя з Расіі—тыя, хто адліваў помнік на Ленінградскім заводзе, і каменячосы з Украіны, якія падрыхтавалі чорны гранітны пастамент».

Шчымлівае, кранаючае пачуццё пакідае ў наведвальніка-беларуса спатканне з Купалам тут, за тысячы вёрст ад яго роднай Вязынкі.

З вышыні пастамента ён глядзіць на вас сваімі добрымі, мудрымі вачыма і нібы хоча сказаць: «Я тут. Мне тут добра, бо я свой сярод сваіх...»

**Леанід КАЗЫРА.**

[Працяг будзе].

## НА СКРЫЖАВАННІ ЖЫЦЦЁВЫХ ДАРОГ

# САМАЯ ШЧАСЛІВАЯ ПАДЗЕЯ

«До свидания, друзья!» За доўгую гісторыю існавання газеты французскага горада Неверса «Ля Мантань» гэта фраза на рускай мове з'явілася ў ёй другі раз. А ўпершыню жыхары горада пазнаёміліся з рускай мовай сорак чатыры гады назад, калі атрады партызан вызвалілі яго ад фашысцкай акупацыі. У брыгадзе пад камандаваннем нацыянальнага героя Францыі, дваццацігадовага палкоўніка Раланда Шампіньера змагаліся людзі рознага ўзросту і розных нацыянальнасцей. Былі сярод іх і два хлопцы з Беларусі.

Аднаго з іх нашы пастаянныя чытачы ўжо ведаюць. 18 жніўня гэтага года ў «Голасе Радзімы» было надрукавана апавяданне Уладзіміра Міховіча «Дзе ты, Катрын?». Тады мы абяцалі больш падрабязна расказаць пра яго аўтара. І вось нядаўна Уладзімір Міховіч зноў з'явіўся ў рэдакцыі, прынёс некалькі сваіх новых твораў і паведаміў аб знамянальнай для яго падзеі, якую чакаў усё жыццё. У верасні па запрашэнню Асацыяцыі ветэранаў Супраціўлення ён разам з сябрам з Кіева, які раней жыў у Пінску, Георгіем Вакульчыкам пабываў у Францыі на святкаванні гадавіны вызвалення горада Неверса.

— Я быў шчаслівы, калі праз столькі гадоў зноў трапіў у тыя месцы, дзе ваяваў, сустрэўся з баявымі таварышамі, — гаворыць Уладзімір Міховіч. — Быў шчаслівы і таму, што французы помняць нас і ўдзячныя ўсім, хто ўдзельнічаў у вызваленні іх радзімы ад фашызму.

Як апынуўся беларускі хлопец у самым цэнтры Францыі? Лёс Уладзіміра Міховіча падобны на лёсы многіх нашых чытачоў. Нарадзіўся і рос ён у невялікай вёсачцы Мальковічы непадалёку ад Драгічына Брэсцкай вобласці. Жыў, як і ўсе сельскія дзеці: хадзіў у школу, дапамагаў бацькам па гаспадарцы. Перад Вялікай Айчыннай вайной Уладзіміру споўнілася пятнаццаць гадоў.

— Спачатку немцы нас амаль не чапалі, — успамінае Уладзімір Міховіч. — Але вось у 1943 годзе ў дом прыйшла бяда. У той час бацька працаваў абходчыкам на чыгунцы. А немцы выдалі загад: за кожную дыверсію партызан на чыгунцы расстрэльваць чыгуначнікаў, якія абслугоўвалі ўчастак. Аднойчы быў падарваны эшалон на нашым участку. Бацьку расстралялі. Арыштавалі мяне, і ў хуткім часе я апынуўся ў эшалоне, у якім вывозілі моладзь на прымусовыя работы ў Германію.



Працаваў на аднаўленні чыгункі, якую пачалі часта бамбіць саюзнікі. Умовы ў лагеры былі жахлівыя. Кармілі так-сяк, спалі па шэсць гадзін у суткі, а астатні час працавалі, як катаржнікі. Але ўцячы было немагчыма: надта моцная варта. І вось Уладзіміру пашанцавала. Перавялі ў другі лагер, потым у трэці. Ён стаў працаваць на станцыі горада Ахена. Разбіралі завалы і пад бамбёжкай.

— Але ў гэтым была і свая выгада, — тлумачыць Уладзімір Данілавіч. — Варта была далёка, навошта ім лезці пад бомбы. А ў вагонах траплялася многа розных прадуктаў. Вось тады і рашылі ўцячы. Запасліся адзеннем, узялі прадукты і аднойчы ноччу ўтраіх пакінулі лагер.

Група ўцекачоў прабіралася па Германіі начамі. Калі перайшлі граніцу і апынуліся ў Францыі, стала лягчэй. Насельніцтва адносілася вельмі добразычліва. Кармілі, пакідалі спаць у дамах. У адзін з такіх дамоў і прыйшлі за імі партызаны. Было гэта праз два тыдні пасля ўцёкаў у маі 1944 года. Так Уладзімір Міховіч стаў байцом французскага Супраціўлення — макі. Удзельнічаў у баях, у вызваленні некалькіх гарадоў, у тым ліку і Неверса. Там партызаны сустрэліся з французскай арміяй і сталі яе часткай. Пазней Уладзімір быў паранены. Са шпіталя яго перавялі ў Парыж. Як толькі паправіўся, адразу ж звярнуўся ў наша пасольства з просьбай дапамагчы вярнуцца на Радзіму. Пайшоў дарогай бацькі—стаў чыгуначным будаўніком. Будаваў дарогі і за мяжой, але ў Францыі пакуль пабываць не давялося. Чаму? Няўжо забыліся гады вайны, баявыя таварышы?

— Вядома, не, — пачынае тлумачыць Уладзімір Данілавіч. — Такое не забываецца. Увесь час хацелася наведаць мясціны, дзе ваяваў, і пабачыцца з сябрамі. Але стала гэта магчымым толькі цяпер, і зноў-такі дзякуючы перабудове ў нашай краіне. Што граху таіць, раней у нас не вельмі мілавалі такіх, як я. Таму і не афішаваў, што быў у Германіі, ваяваў у Францыі. Але цяпер многае змянілася. Хачу сказаць, што і дома да мяне цяпер ставяцца з вялікай павагай. Калі атрымаў запрашэнне з Неверса, дакументы на паездку афармілі без усялякіх затрымак. Нават дапамаглі дастаць білет. А гэта цяпер вельмі цяжка: надта многа людзей з нашай краіны сталі ездзіць за мяжу.

Уладзімір Данілавіч многа расказваў аб сваіх уражаннях ад паездкі. Прымалі савецкіх гасцей з вялікай цеплынёй і павагай. На свяце вызвалення Неверса да іх падыходзілі незнаёмыя людзі і гаварылі словы падзякі, выказвалі сваю дружбу да савецкага народа. Было многа сустрэч з баявымі сябрамі. Уладзіміра Міховіча і Георгія Вакульчыка прымаў мэр Неверса, які адначасова з'яўляецца і міністрам фінансаў Францыі, пан П'ер Берагавуа. Словам, уражанняў шмат. Але адно з самых моцных было вось якое. Нават калі ў Мінску Уладзімір Данілавіч расказваў мне пра гэта, у вачах у яго стаялі слёзы. Можна ўявіць, як быў ён узрушаны, калі ў музеі французскага Супраціўлення ўбачыў уласную фатаграфію і сваю баявую характарыстыку, падпісаную начальнікам штаба атрада Полем Матрыалетам. Французскія сябры з ахвотай падарылі яму копію. Некаторыя словы адтуль я перапісаў.

«Праявіў сябе як дысцыплінаваны, храбры і мужны баец. Удзельнічаў у баях. Асабліва добра паказаў сябе ў час бою каля Донзі ў мясцовасці Куцье, дзе было знішчана 170 фашыстаў і 30 паранена. Загінула пяцёра нашых, у тым ліку 2 чэхаславакі. 20 ліпеня ўдзельнічаў у засадзе, якая знішчыла 2 грузавікі з 60 немцамі». З гэтай характарыстыкі відаць, што ваяваў Уладзімір Міховіч смела, ад куль не хаваўся. Шкада толькі, што наша павага да яго ішла вельмі доўга.

— Я не крыўдую, — смяецца Уладзімір Данілавіч. — Заўсёды быў перакананы, што справядлівасць існуе. Гэтая паездка, якая стала для мяне амаль самай шчаслівай падзеяй у жыцці, яшчэ адзін доказ. Нас ведаюць і помняць. З французскімі таварышамі-камбатантамі цяпер я стала перапісваюся, запрасіў іх у госці ў Мінск і спадзяюся яшчэ сам з'ездзіць да іх.

Хачу яшчэ адзначыць, што французы выказвалі вялікую цікавасць да жыцця нашай краіны, да публічнасці, дэмакратызацыі, перабудовы. Казалі, што гэтыя працэсы радыкальна змянілі адносіны да Савецкага Саюза. Ну, вядома, і я рады, што іх дачакаўся, бо менавіта перабудова нашага грамадства дала мне магчымасць здзейсніць запаветную мару.

**Рыгор ФАМЕНКА.**

**НА ЗДЫМКУ: Уладзімір МІХОВІЧ [злева] і Георгій ВАКУЛЬЧЫК ля помніка загінуўшым байцам Супраціўлення.**

# „Art as a Mirror of the People's Life"

THREE QUESTIONS FOR THE LEADERS OF THE CREATIV E UNIONS ON THE EVE OF THE 70th JUBILEE OF THE REPUBLIC

*(1) Looking back at the centuries-old development of national Byelorussian art, what, in your opinion, is remarkable about the seven decades since the formation of the Byelorussian SSR?*

*(2) What themes, people, events have been most fully reflected in the works of your colleagues and why?*

*(3) What problems in art, politics and the life of society excite your interest today?*

**Igor LUCHENOK,**
**composer, First Secretary of the Board of the Composers' Union of the BSSR**



(1) I believe our ancestors will be grateful to us primarily for preserving our rich national folklore and not allowing it to go into oblivion with those who handed it down. Now that you can still hear very old songs in the villages it would be hard to appreciate fully the significance of this major undertaking.

Several generations of people collected, studied and arranged folk music and songs. A special programme was adopted at governmental level. The state provided the necessary funds. As a result, a 30-volume collection of Byelorussian folklore has been compiled and published by the Republican Academy of Sciences. This voluminous edition contains more than just folk songs and music. All genres can be found here: legends, ballads, fairy-tales, and proverbs. However, folk songs constitute the bulk of the collection. Over 15,000 texts, most of which are given with musical scores are a treasure-trove of Byelorussian and Slavonic culture.

I would like to note two more things. The first one is the establishment of a professional composers' school which we did not have some 70 years ago. Professional musicians are being trained by the Byelorussian State Conservatoire and ten specialized secondary music schools. We have four philharmonic societies — in Minsk and three regional centres, several professional symphony orchestras and the national Byelorussian choir. And the second thing is the existence in the Republic of a system of musical education for the younger generation. There are music schools (over 500), numerous circles and studios, music classes in general schools, cycles of lectures and concerts for children and adolescents and many other things. Amateur art activities also play a great role in educating young people musically. In our Republic, which has a population of ten million, there are now 18 amateur variety and symphony orchestras, some 381 folk instrument orchestras, 2,500 vocal and instrumental groups and 8,500 choirs. However, we must admit frankly that the quality of all this work leaves much to be desired as it no longer meets the people's growing cultural requirements.

(2) What is characteristic of Byelorussian composers' work is interest in modern themes with reliance on national folk music and songs. In my opinion, what makes our music attractive to foreign audiences is that it is realistic and deeply national.

Musicians today largely draw on Byelorussian literature, both classics — mostly poems by Yanka Kupala and Maxim Bogdanovich, and contemporary authors among whom they prefer prose writer Vasil Bykov and poets Nil Ghilevich and Grigori Borodulin. In recent years composers gave attention to the romantic adventure stories of Vladimir Korotkevich on historical themes.

Of course, we do not confine our work to Byelorussian sources only. Our composers also greatly appreciate the prose of Leo Tolstoy and Antoine de Saint-Exupery, the poetry of Alexander Pushkin, Taras Shevchenko, William Shakespeare, Robert Burns and Federico Garcia Lorca.

(3) Today music and the cinema are the most popular of all the arts. There are many more channels by which music is disseminated and the audiences have grown considerably. Whereas in the mid-19[illegible] music ranked 4 th or even [illegible] among the other arts, in the late 1970s it was already second, and in the early 1980s became first.

What really worries me is that young people have l[illegible] interest in serious music. It h[illegible]ns that concerts given by a rather poor rock group collect much greater audiences than classical music concerts. Numerous sociological surveys show that a certain proportion of young people are musically ignorant, lack artistic taste and are inclined to adopt a non-critical approach to the appraisal of music.

In a word, one of our major tasks is to raise musical education to a much higher level.

**Svetlana GORBUNOVA,**
**sculptor, First Secretary of the Board of the BSSR Artists' Union**



(1) Today, we take a critical view of our achievements, including those in the arts. We discuss all questions frankly and admit our mistakes, but none of us can deny the fact that it was precisely socialism that enabled our people to do away with total illiteracy and build a society in which art is not the privilege of a chosen few, but a common asset.

Now we are talking about the centuries-old development of national Byelorussian art. But let us ask ourselves the question: why was it that within a period spanning centuries it existed as purely folk art, why this paucity of famous artists in our fine arts of that period?

This is explained by the concrete historical conditions. Byelorussians did not have their own state, they were subjected to national and social oppression and the gifted individuals from the midst of the people could not develop their talent on native soil. The formation of the sovereign republic put an end to this situation which had been disastrous for the nation. The socialist state provided the conditions necessary for people to develop creatively.

Today, a gifted person can, as a rule, find an opportunity to apply his abilities. If a child shows an aptitude for some sort of creative work he can enrol in a specialized school where, along with general subjects, he will study fine arts indepth. Some 25 years ago a republican art boarding school was opened in Minsk for especially gifted children. More than 400 children from all over Byelorussia, even from its remotest parts, live and study there. Many of them later enter the institute of stage design or specialized secondary educational establishments and become professional artists. Our Artists' Union numbers over 550 members. Another 150 artists are members of the young artists' association.

(2, 3) The last two questions seem very similar to me, therefore I'll answer both of them at once. If you regularly attend our exhibitions you cannot but notice that the rural theme attracts us most. This is, perhaps, because nearly all Byelorussian artists come from villages. Incidentally, this is the reason why our landscapes are so poetic, one feels immediately that they are painted by people who love and appreciate nature.

The theme of the Great Patriotic War of 1941-45 occupies a prominent place in Byelorussian art. Among my colleagues, there is perhaps no one 'who has not used it. But whereas the first post-war decade saw mainly battle-paintings, later the war theme began to acquire a new dimension. Our artists' best works depict the war as mankind's struggle, the struggle of good against evil, and reveal the dignity and lofty mission of man. Suffice it to mention Mikhail Savitsky's series "Numbers on the Heart" which has travelled around the world. In the 13 paintings of this cycle the artist revealed his tragic experiences as an inmate of a fascist concentration camp. His triptych "Aggression" devoted to the same theme is also well known. Obviously, the war theme in our art, as in literature, has developed into an anti-war theme, which is proved by our young artists' works.

Byelorussian painters, graphic artists and sculptors produced many talented portraits of Lenin. I am convinced that the grandeur and versatility of Lenin's genius will inspire many generations of artists.

During the last 15 years we've been turning more and more often to the historical past of our people, to the medieval times, when Byelorussia's first printers Francisk Skorina and Simon Budny, the poet-humanist Nikolai Gussovsky and philosopher Kazimir Lyshchinsky lived and worked. Interest never subsides in the personality of Konstantin Kalinovsky who led the Byelorussian people's national liberation uprising in 1863. Many artists' works are devoted to Yanka Kupala and Yakub Kolas, classics of our literature.

I think it would be right to say that works of art today are distinguished by their publicistic thrust. The restructuring has set the whole country in motion, rapid changes are taking place at all levels of society, and so, in order to react promptly to the current processes, the artist must be a publicist.

One of the last exhibitions which was highly acclaimed by the public was called "Chernobyl and Chernaya Byl" (Chernobyl and the Black Tale). On display there were around 50 paintings and drawings, mainly by young artists. The majority of these pictures were reports from the Chernobyl nuclear power plant, the ill-famed fourth reactor and the places which were affected by this accident.

I think we can justifiably expect that the new reality in which we are destined to live and work will bring forth many talented works describing our times.

**Nikolai YEREMENKO,**
**actor, Chairman of the Board of the Theatrical Workers' Union of the BSSR**



(1) There are now 18 professional theatres in the Republic. Seventy years ago there were none. Of course, even before the revolution attempts were made to establish a professional national theatre. But all the efforts of the progressive-minded intelligentsia came up against the chauvinism of the tsarist autocracy.

Back in 1920 the first two theatres opened in Minsk almost simultaneously. And though Byelorussia, like the rest of the country, was wrecked by economic dislocation, the government managed to find means and resources for the material support of these trail-blazers. Since that time onwards, concern about the development of theatrical art became part and parcel of government policy in the sphere of culture. Today too the state contributes considerable sums to maintaining the theatres — almost half of their budgets are covered through state subsidies. It is due to this that theatre tickets are so cheap in the USSR. True, they are not always available, one has to buy them in advance and the houses are often full. Over 3,000,000 people attend theatres annually.

In 1945, immediately after the Second World War was over, the Byelorussian Institute of Stage Design opened in Minsk. This fact was of great importance for the development of the national theatre. During these years a whole galaxy of talented theatrical workers has emerged who are now working fruitfully on the Byelorussian stage. Among them are stage directors Rayevsky, Mazynsky, Maslyuk, Lutsenko, the chief ballet-master of the Opera and Ballet Theatre, Yelizariev, and others. We have many talented actors, both old and young, of whom any theatre company would be proud.

(2) In selecting works for staging regardless of whether they were created 30 or 300 years ago, our theatres are guided by the only criterion — the topicality of the problems raised and their importance for the today's audience. This is to answer the second part of the question: why this or that play appears on our stage.

Now let us talk about our stage productions.

The repertoire of Byelorussian theatres is rather varied. It always includes Byelorussian, Russian and world classics and works by contemporary foreign dramatists, about two-thirds of stage productions represent contemporary Soviet dramaturgy. In different years theatres have turned to works by Byelorussian authors, such as Yanka Kupala, Andrei Makayonok, Konstantin Gubarevich, Nikolai Matukovsky, and Ales Petrashkevich. Interesting stage productions have been based on epic novels by Ivan Melezh, stories by Vasil Bykov and Ales Adamovich. Plays by Maxim Gorky, Alexander Ostrovsky, Nikolai Gogol and Anton Chekhov are firmly entrenched in the repertoire of Byelorussian theatres. The most popular foreign classics are William Shakespeare, Friedrich Schiller and Bertolt Brecht.

Our Western counterparts often reproach us for turning too often to the events of the Second World War. I think this is only natural. This theme is, as it were, genetically programmed in us and our children. In Byelorussia there is not a single family which had not suffered from the nazi aggression, everyone had lost some of his relatives. This memory cannot fade with the passage of time. Therefore, along with the works of authors of the older generation who had seen war for themselves (like Bykov), young authors born after the war also turn to this theme, telling in their works about their generations's attitude towards war. One such work, "Privates", by a young playwright from Minsk Alexei Dudarev, was a special success. It was staged not only on the Byelorussian stage but in many theatres of the Soviet Union as well.

Both theatrical workers and audiences have never lost interest in the history of Byelorussia. Plays reflecting the complexities and conflicts of our life are also well received by the spectators. Our reality and the themes chosen by republican theatres are so diversified that it is difficult to single out anything particular. In recent years the ecological problem has been given particular attention.

(3) Today the theatre-goer wants the theatre to march in step with the times and reflect those sharp and involved processes which are connected with the democratization of society's life currently under way in this country. However, there are very few stage productions meeting this requirement in our repertoire. The main reason behind this, I think, is the dearth of serious and topical drama. But, of course, much depends on the theatre too which also needs some perestroika. With this aim in view, several theatre companies are now conducting an experiment which will tell what is to be preserved in theatres' activities and what is to be reorganized and changed. Thus, the theatre too is living through a time of change.

*ІМЁНЫ, ЯКІЯ ВЕДАЮЦЬ УСЕ*

# МЫ ТОЛЬКІ Ў ПАЧАТКУ ШЛЯХУ

*Споўнілася 60 гадоў Чынгізу Айтматаву — кіргізскаму пісьменніку сусветнай вядомасці. Сёння ён адзін з самых чытаемых аўтараў. А яго апошнія раманы «Буранны паўстанак» і «Плаха» сталі сапраўднымі літаратурнымі бестселерамі.*

*У 60-х гадах Чынгіз Айтматаў працаваў спецыяльным карэспандэнтам «Праўды», узначальваў Саюз кінематаграфістаў рэспублікі. У апошнія гады пісьменнік шмат часу аддае грамадскай дзейнасці. Ён стаў галоўным ініцыятарам стварэння нефармальнай міжнароднай неўрадавай арганізацыі «Ісык-кульскі» форум, а пасля і яе прэзідэнтам.*

*Прапануем чытачам гутарку Чынгіза Айтматава з палітычным аглядальнікам Агенцтва друку Навіны Андрэем ЗОЛАТАВЫМ.*

**— Як вы лічыце, куды і як пойдуць далей мастацтва і літаратура? Наша ж стагоддзе канчаецца, і вось-вось пачнецца новае...**

— Мне думаецца, каляндарная змена часу яшчэ мала што значыць. Каляндар календаром, а чалавечая сутнасць, якая праяўляецца ў мастацтве,— застаецца. Таму наўрад ці трэба чакаць нейкага карэннага павароту, абавязковага з'яўлення новых спосабаў выяўлення ў мастацтве, абавязкова новых яго форм. Відаць, усё застанецца, як ёсць, але мастацтва, літаратура будуць асвойваць нейкі новы змест, новую гісторыю, новыя лёсы людзей. А яны змяняюцца пастаянна. Тое, што было найбольш характэрным, напрыклад, для эпохі паслярэвалюцыйнай, для нашых 30-х гадоў — гэта, мусіць, усё-такі прайшло. Мне думаецца, вельмі многае будзе сказана, будуць спробы сказаць пра наш час у сувязі з перабудовай.

Хаця мы знаходзімся ў яе пачатку, у кожнага пачатку ёсць і свой апагей, і свой канец. І, відаць, гэтага перыяду страсцей, што мы цяпер перажываем, гэтага новага гістарычнага павароту хопіць для мастацтва на доўгія яшчэ часы. Адсюль будуць чэрпаць новыя мастакі слова, сцэны, музыкі, жывапісу сваё, толькі для іх уласцівае, — сюжэты, вобразы, тэмы, праблемы. А ў цэлым усё тая ж сітуацыя, усё тая ж задача застаецца: чалавек увесь час спрабуе даведацца — хто ж ён і як яму трэба жыць.

Могуць быць розныя спробы розных мастакоў — спробы знайсці нешта свежае, нешта арыгінальнае, што яшчэ не было «ў хаду», нявыкарыстанае. Могуць быць розныя спосабы адчування і выказвання пачуццяў сродкамі мастацтва. Нішто не выключаецца, але ўсё роўна, мне думаецца, што асноўнае, галоўнае — гэта спосаб рэалістычнага адлюстравання чалавека, яго душы.

**— Як вы разглядаеце сённяшні паварот да публіцыстыкі і нават узлёт публіцыстыкі — працэс, у які ўцягнуты многія пісьменнікі, і ў іх ліку вельмі буйныя? Ці няма небяспекі, што ён фактычна звядзе на нішто мастацкую літаратуру?**

— Не, я не думаю, што публіцыстыка зможа замяніць вялікую літаратуру. Гэтага ніколі не было і не будзе. Публіцыстыка займае ў грамадска-літаратурным працэсе сваё месца, у яе свае задачы, сваё прызначэнне. Іншая справа, што цяпер ўсе мы ахоплены спробай хутчэй сказаць пра ўсё набалелае і пра тое, што гадамі замоўчвалася. Гэта натуральная рэакцыя. Але гэта зусім не гаворыць пра тое, што вялікая літаратура перастане існаваць і што мы будзем задавальняцца нашымі чыста эмацыянальнымі водгукамі. Няхай нават самымі шчырымі і праўдзівымі.

Тое, што часам называюць «тэматызмам» нашага часу — гэта тое, што мы ніяк не можам, на жаль, нeяк збалансаваць натуральныя, нармальныя адносіны да тых ці іншых тэм. Ну добра, цяпер «тэматызм» перабудовачны, але ж да таго быў «тэматызм» таксама пэўны, і ён выдаваўся ад імя партыі, дзяржавы... Няхай кожны мастак сам з сабой вырашае, што яму здаецца найбольш цікавым, важным, найбольш патрэбным. А калі загадзя аб'яўляецца, што, скажам, тэма рабочага класа — гэта генеральная тэма, то гэта ўжо «тэматызм», гэта ўжо штучнае абазначэнне таго, што павінна абавязкова заахвочвацца. А ўсё астатняе лічыцца само па сабе другарадным, трэцярадным. Так і ў даным выпадку — перабудова перабудовай, але аб'яўляць саму перабудову галоўнай тэмай для літаратуры і мастацтва, я думаю, таксама будзе няправільна, хоць перабудова будзе так ці інакш, у тых ці іншых формах непазбежна прысутнічаць.

Вось, напрыклад, калі спроба развянчаць усё [illegible]ейшае становіцца жыццёвай неабходнасцю, жывой патрэбай, яе не варта ператвараць у моду і не трэба толькі гэтым абмяжоўвацца. Развенчваць, абвінавачваць, высвятляць трэба, неабходн[illegible] каб сказаць самому сабе, [illegible] з чаго вынікала і што было з чым звязана, але не трэба гэта ператвараць, я паўтараю, у моду, каб толькі гэта гаварыць, разважаць пра гэта толькі так і ніяк інакш — гэта таксама ўжо адна з крайнасцей. Таму трэба, мне здаецца, думаць пра тое, каб не шарахацца з крайнасці ў крайнасць, а знаходзіць усё, што аб'ядноўвае, вядзе да збалансаванасці.

**— Цяпер вядзецца даволі многа размоў аб спаборніцтве ў мастацтве, літаратуры (для большай пераканаўчасці яго называюць здаровым спаборніцтвам). Якія вашы адносіны да гэтай даволі складанай праблемы?**

— Я не хацеў бы гаварыць і думаць аб спаборніцтве ў прамым сэнсе гэтага слова. Хаця, мусіць, нейкае творчае спаборніцтва, ці што, можа быць ці нават павінна быць.

**— Адзін з адным?..**

— Не ведаю з чым. Гэта значыць, спробу сказаць новае слова, зрабіць адкрыццё на фоне таго, што ёсць ці што побач з табой — я гэта не выключаю. Але так, каб узяць і аб'явіць: давайце наладзім сацыялістычнае спаборніцтва ў літаратуры і мастацтве, хто лепш напіша раман на нейкую пэўную тэму, а хто — на іншую тэму, і так далей... Гэта глупства, гэта не патрэбна.

**— Цяпер у паняцце спаборніцтва ўкладваюць не толькі творчы конкурс, баявітасць тэмы, але і нават тое, хто каго абыдзе па тыражах, па папулярнасці...**

— Мне ўсё гэта не падабаецца, мне непрыемная такая пастаноўка пытання. Вядома, папулярнасць, напэўна, патрэбна, але кожны ідзе да яе па-свойму. Яна сама знойдзе пісьменніка, калі трэба.

**— У снежні вы адзначылі «круглую дату» — сваё шасцідзесяцігоддзе, і, напэўна, і вы самі, а не толькі крытыка, аналізуеце зробленае? Ці самае галоўнае ўжо зроблена? Ці ёсць адчуванне, што зроблена недастаткова?**

— Ну, я зусім не лічу, што галоўнае зроблена. Мне хацелася б думаць, што усё яшчэ ідуць подступы да галоўнага. Але ў гэтым, відаць, і парадокс: нашы чаканні ўвесь час абнаўляюцца. Усё спадзяешся сказаць значна больш і значна глыбей, нават пры тым, што нейкі ўзровень ужо дасягнуты.

**— Многія чытачы вашага апошняга рамана «Плаха» асабліва высока ацэньваюць вобраз рускага Аўдзія Калістратава, бачаць у гэтым падзею ў гісторыі рускага літаратурнага працэсу нашага часу. Гэта падстава спытаць: ці адчуваеце вы на сабе ўплыў рускай літаратурнай традыцыі?**

— Ну, гэта не толькі таму, што мне давялося стварыць вобраз рускага чалавека. Нават калі б я гэтага не зрабіў, усё роўна ўплыў рускай літаратуры на мяне—безумоўна вызначальны. І ўсю астатнюю сусветную літаратуру я так ці інакш успрымаю праз рускую літаратуру. Руская літаратура вельмі моцна ў свой час рушыла наперад, вельмі многае пазначыла, у многім дасягнула вялікага поспеху, дала вялікі ўрок усёй сусветнай культуры, яна ўплывае ўсім вопытам свайго развіцця. Так што не можа быць ніякіх сумненняў: руская літаратура для мяне — першазначная з'ява.

**— Вам многа даводзіцца бываць за мяжой, сустракацца там і з літаратарамі, і з чытачамі, і з дзяржаўнымі, палітычнымі і грамадскімі дзеячамі. Апрача цікавасці да вашай творчасці, якое ў вас адчуванне, чаго там яны ад нас чакаюць?**

— Цяпер гэта зусім ясна. Усе разумеюць, што мы знаходзімся ў складаным перапляцце абставін. Перабудова і публічнасць — гэта зусім новы паварот нашай гісторыі, новы вобраз нашага грамадства, і яны ўсе гэтым зацікаўлены і гэтага не ўтойваюць. Нашым жыццём яны цікавяцца з большай доляй добразычлівасці. Мне здаецца, што яны шчыра хочуць, каб наша адчайная спроба ўвянчалася поспехам. Яны адчуваюць да нас давер, адчуваюць неспакой за вынік нашых намаганняў і жадаюць, каб усё задуманае збылося.

**— Што б вы маглі пажадаць вашым чытачам усюды ў свеце?**

— Цяжка жадаць што-небудзь адразу ўсім чытачам, ды яшчэ ўсюды ў свеце. Але тым не менш проста сваім чытачам, да якіх я адчуваю шчырую і глыбокую ўдзячнасць, я пажадаў бы быць больш уважлівымі—не да мяне, зразумела, а быць больш уважлівымі да вялікай літаратуры. Не шкадаваць на яе часу, траціць пэўныя душэўныя намаганні. Гэта было б вельмі важным і для чытачоў, і для самой літаратуры...

*ЦІКАВА ВЕДАЦЬ*

# ЯК СВЯТКАВАЛІ НОВЫ ГОД

У даўні-даўні час каляндарны год на тэрыторыі Беларусі пачынаўся вясною, а навагодняе свята спраўлялі ў пачатку вясенніх палявых работ. Асноўнымі абрадавымі асобамі такога свята былі валачобнікі, якія збіраліся ў гурт і абыходзілі ўсе сялянскія двары, не мінаючы ніводнага, валачобнай песняй велічалі - праслаўлялі кожнага гаспадара і яго сям'ю, іх працу на полі, яе плён, усхвалялі земляробства, жывёлагадоўлю, сялянскія работы на працягу гаспадарчага года, шчаслівую сям'ю, гаварылі імправізаваныя віншаванні. Гаспадары за гэта дзякавалі валачобнікам, давалі ім падарункі — яйкі, сыр, мяса.

У познім сярэднявеччы з пераносам пачатку каляндарнага года на зіму сфарміравалася зімовае навагодняе свята. Галоўнымі яго фігурамі сталі калядоўшчыкі, якія спраўлялі абрад калядавання. Яны пераапраналіся, надзявалі маскі «казы», «мядзведзя», «бусла», «жорава». З'яўленне сімвалічных птушак, што прыляталі вясною, мядзведзя, які прачынаўся ад зімняй спячкі, як бы сімвалізавала наступленне вясны, новага года. Акрамя таго, гэтыя сімвалічныя фігуры жывёл і птушак азначалі добрыя навагоднія пажаданні, павінны былі прыносіць дабро, шчасце. Каза была сімвалам шчодрага ўраджаю, мядзведзь — здароўя, багацця, бусел — сямейнага шчасця. Апрача таго, сімвалічныя фігуры птушак, жывёл весялілі гледачоў. З гэтай мэтай некаторыя калядоўшчыкі ўвасаблялі навагоднія персанажы «маладзіцы» (пераапрануты ў дзявочае адзенне хлопец), «цыгана» і іншых. Важную ролю ў абрадзе адыгрываў калядоўшчык, якога называлі «дзедам». Яго апраналі ў вывернуты поўсцю наверх кажух або рыззё, на спіне рабілі горб, надзявалі яму маску з бяросты, прыладжвалі бараду з лёну, у руцэ ён трымаў кій. «Дзед» вадзіў калядную маску «каза», кіраваў калядным гуртам, куды ўваходзілі таксама музыка, які ігрой суправаджаў танец «казы», танцы «маладзіцы», «цыгана», «песельнікі», якія складалі хор, «механоша» (насіў абрадавыя падарункі —«каляду»). Калядны гурт хадзіў па вёсцы, заглядваў у хаты, весяліў гаспадароў, усю сям'ю.

На поўдні Палесся напярэдадні Новага года спраўлялі абрад шчадравання. Яго выконвала звычайна група дзяўчат. Адну з іх называлі «шчодрай». Галаву дзяўчыны ўпрыгожвалі папяровым вянком з рознакаляровымі стужкамі. І гуртам хадзілі па вёсцы і спявалі пад вокнамі хат велічальныя песні — шчадроўкі, якімі віталі гаспадара, усю яго сям'ю, жадалі шчасця, добрага ўраджаю. У адрозненне ад калядных песень шчадроўкі суправаджаліся прыпевам: «Шчодры вечар, добры вечар!».

Раніцай Новага года звычайна спраўлялі абрад «засяванне». Яго выконвалі дзеці. Яны хадзілі па вёсцы з торбай, напоўненай зернем, заходзілі ў хату і, прывітаўшы гаспадароў, імітавалі сяўбу: пасыпалі падлогу зернем жыта, аўса, ячменю. Рабілі гэта моўчкі або суправаджалі сімвалічнае дзеянне кароткай песняй, якой жадалі гаспадарам хаты ўраджаю, дабрабыту ў новым годзе. Выканаўцам абраду давалі святочныя падарункі.

Састаўной часткай зімовага навагодняга свята была абрадавая вячэра, якую наладжвала кожная сям'я напярэдадні



Новага года. Абавязковай стравай гэтай святочнай вячэры была «куцця»— каша, якую рабілі з ячменю або пшаніцы і елі ў канцы вячэры. Яе гатавалі загадзя і ставілі на пачэснае месца ў хаце — у куце (адсюль і назва). З ёю звязвалі надзеі на новы ўраджай. Існавала прыкмета, што калі каша падымалася зверху гаршка, то будзе ўраджай той культуры, з зерня якой яна прыгатавана. Бытавала таксама павер'е, што калі ўзяць пернік, загарнуць яго ў ручнік і пакрыць гаршчок з абрадавай кашай, то ячмень у новым годзе будзе каласістым. Усе ўдзельнікі вячэры павінны былі з'есці хоць адну лыжку куцці. Лічылі, што гэта садзейнічае ўраджаю, прадухіляе гібель пасеваў ад марозу. У час частавання «звалі мароз» куццю есці: «Мароз, мароз, ідзі ка мне куццю есць, толькі майго ячменю, аўса, пшаніцы і г. д. (пералічваюць культуры, якія мяркуюць пасеяць) не марозь». Перад тым як паставіць куццю на стол, клалі на яго салому, паверх пасцілалі абрус. Пасля вячэры «малацілі» салому кулакамі (білі імі па абрусу), а потым выцягвалі па саломінцы і па яе даўжыні меркавалі, які будзе лён у новым годзе, а па колькасці знойдзеных зярнят жыта меркавалі аб будучым ураджаі збожжа. Іншы раз абрадавай кашай абсыпалі пладовыя дрэвы ў садзе (лічылі, што пасля гэтага яны будуць даваць лепшы ўраджай). Абрадавая каша была галоўнай стравай святочнай вячэры. Таму ўся абрадавая вячэра называлася таксама «куцця». Навагоднюю абрадавую вячэру называлі «багатай», «тоўстай», «мясной», «шчодрай» куццёй. Для гэтай вячэры гаспадары імкнуліся

(Заканчэнне на 8-й стар.).

# ЯК СВЯТКАВАЛІ НОВЫ ГОД

(Заканчэнне. Пачатак на 7-й стар.).

нагатаваць як мага больш страў (7, 9, 12) і самых лепшых. Лічылі, што так трэба рабіць, каб у новым годзе быў дастатак у хаце, сям'і. Апрача куцці, былі на стале каўбасы, студзень, бліны, пірагі, сыр, кісель і іншае. Важнае значэнне надавалі не толькі абрадавай кашы, але і стравам са свініны. Яны былі абавязковым кампанентам святочнай вячэры напярэдадні Новага года і сімвалізавалі багацце, дастатак, дабрабыт.

Напярэдадні Новага года была пашырана варажба. Займаліся гэтым пераважна дзяўчаты. У варажбе дамінавалі шлюбныя матывы. Варажбой імкнуліся даведацца, якая з іх першай выйдзе замуж, куды, які будзе характар мужа. Дзяўчаты клалі на парог аладкі і ўпускалі ў хату сабаку. Лічылі, што чыю аладку ён спачатку з'есць, тая першай і выйдзе замуж. Дзяўчына кідала за вароты зняты з нагі чаравік і глядзела, у які бок ён ляжа. Меркавала, што ў той бок яна і выйдзе замуж. Кідалі таксама каменьчык у ваду калодзежа. Калі ён упадзе без шуму, то муж будзе ціхі і добры, а калі з шумам, то, наадварот,— буйнага нораву і злы. Праз некаторы час пасля навагодняга свята і да масленіцы часта заключалі шлюбы, спраўлялі вяселлі, і варажба дзяўчат была своеасаблівай формай чакання гэтай пары.

Знаёмству дзяўчат з хлопцамі садзейнічалі ігрышчы моладзі, што адбываліся ў пачатку новага года. Гульні наладжвалі ў карчме або ў вялікай хаце, якую святочна прыбіралі. На поўначы Беларусі характэрнай навагодняй гульнёй была «Жаніцьба Цярэшкі». Яна з'яўлялася своеасаблівай гумарыстычнай мастацкай імітацыяй вяселля, заключэння шлюбу. На захадзе Беларусі тыповай была гульня «Яшчур», у час якой дзяўчаты вадзілі вакол выбранага імі юнака карагод, кожная ўдзельніца гульні танцавала з ім, аддавала яму «вянок» (пояс, хустку і інш.), а потым танцам або песняй выкупляла свой «вянок».

Апісаны комплекс зімовых навагодніх звычаяў і абрадаў найбольш быў характэрны для беларускага этнасу на феадальнай стадыі развіцця. У капіталістычную эпоху, асабліва ў канцы XIX — пачатку XX стагоддзяў, яшчэ больш аслабляюцца рэлігійныя рысы некаторых навагодніх абрадаў — калядавання, засявання і іншых. У гэты час на Беларусі, перш за ўсё ў гарадах і пераважна сярод багатых — памешчыкаў, буржуазіі, распаўсюджваецца звычай ставіць навагоднюю ёлку. Дарэчы, упершыню ён узнік у Германіі. Спачатку гэтае дрэва надзялялі звышнатуральнымі ўласцівасцямі, пакланяліся яму. Упрыгожванне ёлкі першапачаткова было часткай ахвярапрынашэння. Гэтым абрадам імкнуліся ўлагодзіць, задобрыць дрэва, яго жыццёвую сілу, якая нібыта можа садзейнічаць чалавеку, урадлівасці поля, дабрабыту сям'і. Паступовa першапачатковы рэлігійны сэнс абраду пачаў знікаць. Зялёная ўпрыгожаная ёлка стала пераважна сімвалізаваць жыццё, здароўе, дабрабыт, шчасце. Важнае значэнне набылі эстэтычныя рысы святочнага навагодняга дрэва, якое выклікае радасць, добрыя надзеі. Упрыгожаная зялёная ёлка паступова ператварылася ў галоўны сімвал зімовага навагодняга свята, асноўны сімвал новага года з яго вясною, з'яўленнем раслліннасці, новага жыцця. Адбываюцца некаторыя змены ў саставе навагодніх масак-персанажаў. У канцы XIX— пачатку XX стагоддзяў у гарадах адначасова з ёлкай з'яўляюцца і навагоднія персанажы Дзеда Мароза і Снягуркі, якія былі ўжо пашыраны ў краінах Заходняй Еўропы. Новыя элементы навагодняга свята ў гэты перыяд былі характэрны толькі для побыту багатых. Яны яшчэ не ахапілі большую частку беларускага этнасу, у прыватнасці, сялян, рамеснікаў, рабочых.

Значныя змены ў комплексе навагодніх звычаяў і абрадаў адбыліся ў савецкую эпоху. Паступовa знікла варажба. Навагодняя абраднасць канчаткова страціла рэлігійны сэнс. Звычай ставіць навагоднюю ёлку пашырыўся не толькі ў гарадах, але і ў вёсках, стаў характэрнай рысай навагодняй святочнай культуры ўсяго насельніцтва Беларусі, самым яркім, самым важным навагоднім сімвалам. Ёлку пачалі ставіць не толькі ў хатах, кватэрах, але і ў грамадскіх будынках (Палацах культуры, клубах, школах, дзіцячых садах), на плошчах. Састаў навагодніх масак папоўніўся казачнымі персанажамі. Новы год стаў самым любімым і жаданым святам для дзяцей. Вакол ёлкі яны водзяць карагоды, спяваюць песні, тут атрымліваюць навагоднія падарункі ад Дзеда Мароза і Снягуркі.

Абавязковым элементам навагодняй урачыстасці стаў звычай віншаваць родных, сяброў, знаёмых паштоўкай або па тэлефоне ці тэлеграмай. Перад пачаткам Новага года перадаецца навагодняе віншаванне Савецкага ўрада ўсім грамадзянам нашай краіны. Ва ўсіх сем'ях наладжваецца навагодняе застолле, а ў Палацах, Дамах культуры, клубах, школах — навагоднія балі-маскарады, у якіх удзельнічае галоўным чынам моладзь, у школах — дзеці. Па тэлебачанні паказваецца навагодні канцэрт майстроў мастацтваў.

**Міхаіл ПІЛІПЕНКА,**
**кандыдат гістарычных навук.**

**ПАВАЖАНЫХ ЧЫТАЧОЎ «ГОЛАСУ РАДЗІМЫ», УСІХ СУАЙЧЫННІКАЎ,**

**якія жывуць далёка і блізка ад мілай іх сэрцу і дарагой іх памяці Беларусі, шчыра віншуем з Новым, 1989 годам і зычым таго, чаго звычайна людзі зычаць адзін аднаму з такой нагоды — здароўя, шчасця, дабрабыту і міру на нашай зямлі.**

**Зычым таксама, каб наступны год быў вельмі памысным у грамадскім жыцці таварыстваў і аб'яднанняў нашых замежных землякоў, каб мацнела духоўная повязь беларусаў усіх пакаленняў з зямлёй продкаў, маці-Радзімай.**

**Беларускае таварыства «Радзіма»**

**Рэдакцыя газеты «Голас Радзімы»**

## ВЫСТАЎКА— ЗАЎСЁДЫ СВЯТА

**БЕЗ НАРОДНАГА МАСТАЦТВА НЕ МОЖА ПАЎНАЦЭННА ІСНАВАЦЬ НІ АДНА НАЦЫЯНАЛЬНАЯ КУЛЬТУРА**





**У Мінску прайшла рэспубліканская выстаўка «Народнае мастацтва Беларусі. Традыцыйныя мастацкія промыслы», прысвечаная 70-годдзю БССР і Кампартыі Беларусі. На ёй былі прадстаўлены ўсе вобласці нашай рэспублікі, а таксама фабрыкі мастацкіх вырабаў. Каля 400 удзельнікаў выстаўкі — людзі рознага ўзросту і прафесій — паказалі каля 1 000 экспанатаў, дэманструючы сваё майстэрства, па-сапраўднаму мастацкія вырабы. Тут былі прадстаўлены амаль усе віды народна-прыкладнога мастацтва, што традыцыйна бытуюць на Беларусі: ткацтва, вышыўка, саломапляценне, кераміка, пляценне з лазы, разьба па дрэву і інш. Многае з таго, што дэманстравалася, уваходзіць сёння ў наш побыт, упрыгожваючы жыццё.**

**НА ЗДЫМКАХ: творы беларускіх народных майстроў, якія дэманстраваліся на выстаўцы.**

**Фота І. КУРМАНОВІЧА.**




## *ГУМАР*

*Муж доўга спрачаецца з жонкай. Нарэшце, змучаны, ён гаворыць:*

*— Добра... Няхай будзе па-твойму...*

*— Позна! Я ўжо перадумала!*

***

*— Ідзе моцны дождж, а мая жонка пайшла гуляць без парасона.*

*— Не турбуйцеся, я мяркую, яна схаваецца ў якім-небудзь магазіне.*

*— Гэтага я якраз і баюся.*

***

*Бацька — дачцэ:*

*— Колькі зарабляе твой кавалер?*

*— Як дзіўна, тата! Ён задаваў мне гэтае ж пытанне пра цябе.*

***

*— Эх і карак! Ну і карак! Вось гэта дык карак,— мармытаў цырульнік, падстрыгаючы кліента.*

*— А гэта таму, што я заўжды добра і смачна ем, — самазадаволена ўсміхаючыся, сказаў кліент.*

*— Ды еш ты, братка, хоць мякіну, — адказаў цырульнік, — але ж хоць зрэдку шыю мый.*

**РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ**

**НАШ АДРАС:**
**МІНСК-5, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.**
**ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-07-82.**

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі
Зак. № 1738